© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Аляксандр Шамякін

# Ад Брэста да БССР

Траццяк, С. А. (2009). *Брэсцкі мір і грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі: лістапад 1917 – студзень 1919 г.* Мінск: Беларуская навука. 208 с.

Кніга беларускага гісторыка, супрацоўніка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сяргея Аляксандравіча Траццяка прысвечаная падзеям Брэст-Літоўскага мірнага пагаднення паміж бальшавіцкай Расіяй і краінамі Чацвяртнога хаўрусу, а таксама той грамадска-палітычнай сітуацыі, якая склалася пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі да ўтварэння БССР.

Першаснае знаёмства з даследаваннем Сяргея Траццяка пакідае ўражанне грунтоўнасці, манаграфія вытрыманая ў навуковым стылі, структурныя часткі маюць прэтэнзію на лагічнае і падрабязнае раскрыццё даследчай праблемы. У структурным плане манаграфія ўключае ўводзіны, тры главы, заключэнне і дадаткі.

Першая глава прысвечаная грамадска-палітычнаму становішчу ў Беларусі падчас мірных перамоваў у Брэст-Літоўску. Тут асвятляюцца заключэнне перамір'я на Заходнім фронце, мірныя перамовы ў Брэст-Літоўску, мірная канферэнцыя і становішча ў Беларусі. Другая глава – «Уздзеянне Брэсцкага міру на грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі». У межах яе разглядаецца ўсталяванне акупацыйнага нямецкага рэжыму, абвяшчэнне БНР і яе дзейнасць, дадатковая савецка-нямецкая дамова і адыход нямецкіх войскаў з Беларусі. Трэцяя частка тычыцца ўплыву Брэсцкага міру на развіццё палітычных працэсаў у Беларусі: грамадска-палітычнай сітуацыі на беларускіх землях і стварэння беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове.

З канцэптуальнага гледжання выклікае пытанне так звязаная Брэст-Літоўская сістэма міждзяржаўных адносінаў. Гэты тэрмін аўтар першы раз узгадвае ва ўводзінах, калі піша: «*...пашырэнне савецкай улады на землі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі, якое было вынікам крушэння Брэст-Літоўскай сістэмы міждзяржаўных адносін на ўсходзе Еўропы, не прывяло да аднаўлення дабрэсцкага статуса Беларусі*» (с. 3–4). Праблема ў тым, што адсутнічае ўласна характарыстыка гэтай сістэмы: механізм яе функцыявання, сутнасць, складнікі, сувязі – на гэтыя пытанні няма выразнага адказу. Хаця цягам усяго

тэксту мы можам знайсці асобныя моманты, абапіраючыся на якія магчыма рэканструяваць гэтую сістэму, адсутнічае ясная аўтарская візія згаданага міждзяржаўнага ўладкавання. У гэтай сувязі ўзнікаюць праблемы з дакладным разуменнем пазіцыі аўтара, таму, на нашую думку, было б апраўдана раскрыць сутнасць «Брэст-Літоўскай сістэмы» ў асобным раздзеле або структурна акрэсліць яе іншым чынам.

Ва ўводным слове аўтар падкрэслівае значнасць Брэст-Літоўскіх мірных перамоваў і заключанага мірнага пагаднення для развіцця палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Адзначаецца, што «*нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне нашай Бацькаўшчыны паўстала ў парадак дня*» (с. 3). Безумоўна, важнасць тых падзеяў для лёсу Беларусі цяжка пераацаніць, але на першых старонках кнігі мы знаходзім і пэўны ўплыў афіцыйнай «ідэалогіі»[1]: аўтар піша, што Беларусь набыла ўласную суверэнную дзяржаўнасць на пачатку 1919 года (с. 3). Такім чынам, адлік беларускай дзяржаўнасці вядзецца з БССР, то бок атрымліваецца, што менавіта савецкая ўлада так шчодра адарыла беларускі народ. Пры гэтым Траццяк не ўлічвае, што галоўнай прыкметай суверэннай дзяржаўнасці ёсць суб'ектнасць у міжнародных адносінах. Але ці мела яе БССР?

Як вядома, рашэнне пра стварэнне беларускага савецкага ўрада ЦК РКП(б)[2] у Маскве прыняў напрыканцы 1918 года, і для мясцовага бальшавіцкага кіраўніцтва гэта сталася непрыемнай нечаканасцю – старшыня Аблвыкамзаха Аляксандр Мяснікоў быў праціўнікам ідэі беларускай савецкай дзяржавы. Тое, што рашэнне пра стварэнне БССР прымалася з кан'юнктурных меркаванняў, мы можам зразумець з выказвання прадстаўніка ЦК РКП(б) Адольфа Ёфэ: «*Каб не паўтараць памылак, калі нам непасрэдна прыходзілася весці барацьбу з германскім імперыялізмам, мы ў ЦК вырашылі Савецкую Расію аддзяліць буферамі ад Еўропы. Але каб гэта не быў буфер, які аддзяляе нас. Ён павінен стрымліваць імперыялістычны націск…*» (Куличенко, 1963: 54).

Таксама ў Маскве прымалася рашэнне пра стварэнне Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і далучэнне да Расіі Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў. Згаданае рашэнне выклікала пратэсты як праціўнікаў нядаўняга абвяшчэння БССР – абласнікоў з «групы Мяснікова», так і прадстаўнікоў беларускага ўрада на чале са Змітром Жылуновічам (Ігнаценка, Хоміч, 2006: 109). Аднак ЦК РКП(б) меў сваю візію тэрытарыяльнага ўладкавання Беларусі і настаяў на ёй. Пералічаных гістарычных эпізодаў дастаткова для высновы, што БССР не была суб'ектам міжнародных адносінаў, а гэта значыць, што

---

1 Паняцце *ідэалогія* ў гэтым выпадку бярэцца намі ў двукоссе, бо нягледзячы на шматлікія намаганні «ідэалогія беларускай дзяржавы» да гэтага часу застаецца ў значнай ступені неакрэсленым корпусам ідэяў.

2 Цэнтральны камітэт Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў).

немагчыма казаць пра беларускую суверэнную дзяржаўнасць.

Мы нездарма звярнуліся да праблемы суверэнітэту, бо ў манаграфіі закранаюцца важныя пытанні, звязаныя з гэтым тэрмінам. Аўтар словамі цытаты падкрэслівае крыніцу суверэнітэту Беларускай Народнай Рэспублікі, якою нібыта была Рада Першага Усебеларускага кангрэса (с. 60). Цытата прыводзіцца з эміgranцкай нацыянальнай літаратуры (Недасек, 1949) і цалкам упісваецца ў аўтарскую візію абвяшчэння незалежнасці БНР. Маўляў, Рада БНР адышла ад волі Усебеларускага кангрэса (с. 68), а значыць, крыніцай суверэнітэту БНР быў не беларускі народ праз Усебеларускі кангрэс, а Рада кангрэса. Такая логіка разважання не прыводзіць аўтара да згадкі пра тое, што ва Устаўных граматах і асабліва ў 3-й Устаўной грамаце, якая абвясціла незалежнасць БНР, недвухсэнсоўна называецца крыніца суверэнітэту – беларускі народ (3-я Устаўная…, 2000: 303–304).

Калі казаць пра легітымнасць Рады БНР у прадстаўніцтве беларускага народу, то аўтар адназначна паказвае яе маштаб: «*Папоўненая прадстаўнікамі правінцыйных беларускіх рад, земскіх і гарадскіх самакіраванняў, арганізацыяў нацыянальных меншасцяў, Рада 1-га Беларускага з’езда 19 сакавіка 1918 г. прыняла імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З 71 члена Рады беларусаў было 36, мінчан – 55 чалавек. У сацыяльным плане гэты зародак перадпарламента складаўся з прадстаўнікоў пераважна сярэдняй інтэлігенцыі, у партыйным – з членаў нацыянальных (беларускіх, яўрэйскіх, польскіх) і ўсерасійскіх (правых эсэраў і меншавікоў) сацыялістычных партыяў*» (с. 64–65). І хаця вядома, што пасля абвяшчэння незалежнасці БНР гэтае прадстаўніцтва скарацілася, тым не менш, яно было значна шырэйшае, а значыцца і больш легітымнае ў прадстаўленні беларускага народу, чым савецкія структуры.

Савецкая ўлада, якая засноўвалася на вузкім класавым фундаменце і аднапартыйнай сістэме, была надзеленая суверэнітэтам не ад беларускага народу, а ад ЦК РКП(б). Увогуле, часам стаўленне аўтара да паняцця легітымнасці ўлады выклікае здзіўленне. Акрамя ўжо адзначаных пытанняў, Трацццяк называе Савет народных камісараў (СНК) РСФСР «*адзіным легітымным урадам Расіі*» (с. 68), якому захоўвалі вернасць дзяржаўныя служачыя ў зоне нямецкай акупацыі (с. 68). Па-першае, не зразумела, адкуль вядома, што дзяржслужачыя захоўвалі вернасць бальшавіцкаму ўраду – не прыводзіцца ніякіх абгрунтаванняў. Па-другое, чаму аўтар вырашыў, што СНК быў адзіным легітымным органам? Як вядома, яшчэ ў студзені 1918 года бальшавікі разагналі значна больш легітымны Усерасійскі ўстаноўчы сход, які мусіў вырашыць пытанне дзяржаўнага ладу ў Расіі.

У манаграфіі таксама адсутнічае яснае, цэласнае і паслядоўнае стаўленне да існавання БНР. Як няма чорнага колеру, у які фарбуюць БНР дзяржаўныя ідэолагі ды кан'юнктурныя гісторыкі, так і няма

адназначна станоўчых ацэнак гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Але адсутнасць яснай пазіцыі ў гэтым пытанні не азначае бесстароннасці навуковага даследавання. Хутчэй, можа скласціся ўражанне, што аўтар свядома імкнецца «не заплываць за буйкі», расстаўленыя дзяржаўнай ідэалагічнай машынай.

Аўтар дае своеасаблівую інтэрпрэтацыю палітычным наступствам 3-й Устаўной граматы, якая абвяшчала незалежнасць БНР ад Расіі. Ён называе яе «*фатальнай*», бо яна не дазволіла ўвасобіць у жыццё палажэнні 1-й і 2-й Устаўных граматаў Рады БНР, тым самым беларускія адраджэнцы сталіся «*заложнікамі*» 3-й Устаўной граматы (с. 67). То бок можна зрабіць выснову, што сам акт абвяшчэння незалежнасці быў шкодны. Але шкодны для беларускага адраджэння? Ці шкодны таму, што гэты акт адрываў Беларусь ад Расіі?

Вядома (і аўтар гэта адзначае), што рэалізацыя на практыцы палажэнняў 3-й Устаўной граматы ў тых умовах была праблематычная. Але Траццяк відавочна недаацэньвае агромністае сімвалічнае значэнне гэтага акту і яго ўплыў на рашэнне бальшавікоў стварыць БССР як савецкую альтэрнатыву нацыянальнаму праекту аднаўлення дзяржавы. Такую стратэгію камуністы ў той час выкарыстоўвалі асабліва актыўна (Шамякін, 2010: 188).

Пры асвятленні дзейнасці кіраўніцтва БНР Сяргей Траццяк тлумачыць з'яўленне тэлеграмы кайзеру Вільгельму II – такі тактычны, але непапулярны крок падаваўся апраўданым у святле аналагічных паспяховых захадаў Літвы, Украіны і Польшчы (с. 72). У якасці пацверджання прыводзяцца словы Язэпа Варонкі з ліста Антону Луцкевічу. Мы дазволім сабе прывесці гэтую цікавую цытату: «*Справа гэтая нарабіла тутака многа шуму. Голас грамадзянства раздзяліўся на дзве часткі: адны хваляць, другія называюць нас здрайцамі, нямецкімі падданымі. Што зрабіць. Чы ж усім дагадзіць. Чы разумеюць яны нашу боль, нашыя мэты*» (с. 72). Такім чынам, аўтар паказвае гэтую сітуацыю – спробу здабыцця прызнання БНР ад немцаў – з пазіцыі палітычнай мэтазгоднасці. Гэта праблема дастаткова падрабязна разглядаецца, як і марнасць спадзяванняў адраджэнцаў на палітычную дапамогу Нямеччыны.

Варта адзначыць такі безумоўны плюс працы Траццяка, як багатая фактalогія – у манаграфіі дастаткова самых розных цікавых дэталяў і цытатаў. Прычым яны ў поўнай меры ахопліваюць усе аспекты, якія разглядаюцца ў кнізе. Тым самым аўтар у значнай ступені дазваляе чытачу самому рабіць высновы наконт значэння і сэнсу тых або іншых падзеяў: тэлеграмы Рады БНР нямецкаму кайзеру Вільгельму II, амаль паралельных спробаў Народнага сакратарыята БНР дамагчыся прызнання ад бальшавіцкай Расіі ды г. д. Дарэчы, з кантактамі дзеячаў БНР і прадстаўнікамі СНК РСФСР у манаграфіі звязаная цікавая і немалаважная дэталь, а менавіта тое, што БНР не прызнавала СНК легітымным усерасійскім органам улады,

ставячы яго ў адзін шэраг з урадамі Паволжа, Сібіры, поўначы і поўдня Расіі (с. 84). У сваю чаргу, украінскія ўлады і немцы прызнавалі за ўрадам Леніна ўсерасійскую легітымнасць.

Цікавасць выклікае адлюстраванне ў манаграфіі дачыненняў БНР і Украіны. Сярод іншага аналізуецца падыход украінскай дзяржавы да вызначэння паўночнай мяжы. На адноўленых 22 траўня 1918 года савецка-ўкраінскіх мірных перамовах у Кіеве ўкраінскі ўрад трымаўся пазіцыі, што вызначэнне ўкраінска-беларускай мяжы – гэта ўжо двухбаковая справа Украіны і БНР, спасылаючыся на фактычнае прызнанне БНР з боку ўкраінскай дзяржавы (с. 82). Аўтар паказвае, як дзеячы БНР выкарыстоўвалі Кіеў у якасці пляцоўкі для кантактаў з прадстаўнікамі СНК, каб дасягнуць афіцыйнага прызнання з боку РСФСР. Увогуле «ўкраінскі фактар» меў прыкметнае значэнне ў палітычнай сітуацыі вакол Беларусі, пачынаючы ад мірных перамоваў у Брэст-Літоўску, на якіх інтарэсы Беларусі прадстаўляла ўкраінская дэлегацыя, да ініцыятывы беларуска-ўкраінскай уніі восенню 1918 года. Таму падаецца абсалютна лагічным, што ў манаграфіі варта было прадугледзець частку, спецыяльна прысвечаную беларуска-ўкраінскім сувязям і кантактам, бо яны мелі дастаткова прыкметнае палітычнае значэнне.

Вельмі падрабязна ў працы раскрываецца працэс ліквідацыі нямецкай акупацыі беларускіх зямель, рух Чырвонай Арміі на захад і зацвярджэнне ўлады бальшавікоў. Гэтыя працэсы таксама добра прадстаўленыя ў архіўных дакументах, змешчаных у дадатку да манаграфіі, таму чытач можа самастойна паглыбіцца ў разгляд тэмы. Неаднаразова ў тэксце фігуруюць заключэнні аўтара наконт народнай сімпатыі і добрага стаўлення насельніцтва беларускіх зямель да савецкай улады, якая ўсталёўвалася пасля адыходу нямецкіх войскаў. Аднак такога кшталту заключэнні аўтар неаднаразова абвяргае сваёй грунтоўнай і добрай факталогіяй, пра якую мы ўжо казалі. Напрыклад, ён апісвае паўстанні, якія ахапілі ўсходнюю Беларусь неўзабаве пасля ўсталявання бальшавіцкай улады. Сярод іх паўстанне ў Вяліжскім павеце, якое перакінулася на ўсю Віцебскую губерню, «жыгалаўшчына» на Магілёўшчыне і Смаленшчыне, ну і, вядома, лясныя антыбальшавіцкія партызаны – так званы Зялёны рух (с. 107–108). Як адзначае аўтар, «Зялёны» рух зрабіўся фактарам небяспекі на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне і ў асобных раёнах Меншчыны (с. 108). І хаця можна пагадзіцца з Траццяком у тым, што гэтыя паўстанні не зазналі істотнага беларускага нацыянальнага ўплыву, але замацаванне бальшавікоў на месцах праходзіла не так гладка, як яно адбывалася б пры народнай падтрымцы і сімпатыі да новай улады.

Падсумоўваючы разгляд новай грамадска-палітычнай сітуацыі на беларускіх землях пасля фактычнай ліквідацыі Брэсцкага міру, аўтар канстатуе, што «*палітыка пакорлівага супрацоўніцтва* [БНР] *з германскімі акупантамі пераважнай большасцю насельніцтва краю была сустрэтая*

*ў штыкі, што прадвызначыла амаль суцэльнае неўспрыманне і неприманне ідэй і аргументацыі Рады народнымі масамі*» (с. 120). Такая выснова ўступае ў супярэчнасць са сцверджаннем, якое аўтар прыводзіў раней, а менавіта, што дзейнасць Беларускай Рады заставалася не вядомаю для шырокіх колаў насельніцтва, асабліва ў сельскай мясцовасці. Дык як усё ж такі: амаль суцэльнае неўспрыманне ці амаль суцэльная невядомасць?

Завяршальны эпізод кнігі прысвячаецца стварэнню беларускай савецкай дзяржавы. Варта аддаць належнае, аўтар імкнецца непрадузята пісаць пра гэты складаны і неадназначны працэс, вырашальным аспектам якога была рэвалюцыйная мэтазгоднасць і палітычная кан'юнктурнасць. Напрыклад, адзначаецца, што «*канчатковае афармленне беларускай савецкай дзяржаўнасці, асабліва вызначэнне граніц Беларусі на ўсходзе і захадзе, ставілася ў залежнасць ад развіцця рэвалюцыі ў Польшчы, Літве і Германіі*» (с. 123).

Вядома, што практыка бальшавіцкага кіраўніцтва ў справе нацыянальнага будаўніцтва ў перыяд распаду Расіі ды грамадзянскай вайны засноўвалася на даволі гнуткім падыходзе – там, дзе існавала рэвалюцыйная неабходнасць, варта было ствараць дзяржавы на савецкай аснове або пагаджацца на існаванне нацыянальнай «драмы» (Ленін, 1951: 269). Назват ствараючы федэрацыю, Ленін разглядаў яе як часовую меру, што «*...паслужыць менавіта крокам да самага трывалага аб'яднання разнастайных нацыянальнасцяў Расіі ў адзіную дэмакратычную цэнтралізаваную Савецкую дзяржаву*» (Ленин, 1962: 151). Траццяк прыводзіць доказы таго, што рэвалюцыйная мэтазгоднасць запатрабавала стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці менавіта ў канцы 1918 года: «*...да сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы справа не дайшла. У трэцяй дэкадзе снежня 1918 г. Масква прыйшла да высновы, што ў хуткім часе трэба чакаць антысавецкай агрэсіі з боку Польскай дзяржавы*» (с. 129).

Не будзем забываць, што якраз у гэты час Польшча падхапіла беларускае нацыянальнае пытанне і прагучалі тэрытарыяльныя прэтэнзіі на землі былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Менавіта пра знешнепалітычныя матывы ўтварэння беларускай савецкай дзяржавы казаў Мяснікоў 30 снежня 1918 года на 6-й Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РКП(б) (с. 131). Аўтар манаграфіі адзначае таксама вельмі важную дэталь, а менавіта шосты пункт правілаў, выпрацаваных напярэдадні абвяшчэння БССР 27 снежня 1918 года на сустрэчы Сталіна, Мяснікова і Калмановіча.[3] Згодна з гэтым пунктам жорстка абмяжоўваўся суверэнітэт БССР, захоўвалася

3 Майсей Калмановіч (1888–1937) – у 1917 годзе начальнік Мінскага гарнізона, камісар па харчаванні Аблвыкамзаха, у 1918 годзе таксама выконваў абавязкі старшыні СНК Заходняй вобласці і фронту. У 1919-м член першага ўрада БССР, намеснік старшыні ЦВК, народны камісар харчавання БССР. *Заўвага рэдактара.*

пераемнасць курсу Аблвыкамзаха і даваліся гарантыі ад магчымых нечаканых наступстваў стварэння беларускай савецкай рэспублікі (с. 130). Як бачна, аўтар сам абвяргае ўласны тэзіс пра суверэннасць БССР.

Некалькі словаў трэба сказаць пра дадатак да манаграфіі, які складаецца з 53 архіўных дакументаў, хаця прынцып падборкі матэрыялаў пакідае пэўныя пытанні.

Архіўная падборка храналагічна абмежаваная лістападам 1918 – студзенем 1919 года і адлюстроўвае працэс ліквідацыі нямецкай акупацыі Беларусі, а таксама «*вынікі германскай акупацыі ў масавай свядомасці насельніцтва Беларусі, яго настроі і палітычныя памкненні*» (с. 142). Відавочна, было б лагічна ўключыць у дадатак важныя дакументы, якія адлюстроўваюць больш шырокія праблемы грамадска-палітычнага жыцця і за большы храналагічны перыяд, напрыклад, з лістапада 1917 да студзеня 1919 года, то бок за перыяд, якому прысвечанае само даследаванне. Безумоўна, прыведзеныя ў манаграфіі дакументы ўяўляюць навуковую значнасць і цікавасць для даследчыкаў, аднак іх тэматыка занадта вузкая для кнігі, прысвечанай Брэст-Літоўскаму мірнаму пагадненню і грамадска-палітычным працэсам у Беларусі. Акрамя гэтага, было б дарэчы ўключыць у дадатак дакументы з нямецкага боку, каб перадухіліць аднабаковасць асвятлення тэмы.

Манаграфія Трацяка «Брэсцкі мір і грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі» – цікавае навуковае даследаванне, у якім разглядаюцца надзвычай важныя, складаныя і неадназначныя пытанні беларускай гісторыі. Нягледзячы на асобныя недахопы, тэарэтычная прапрацаванасць, багатая факталагічная база і разгляд важных дэталяў робяць даследаванне значным унёскам у беларускую гістарычную навуку. Манаграфія можа быць карысная спецыялістам гуманітарна-сацыяльных дысцыплінаў – і перш за ўсё гісторыкам. Характарызуючы гэтую працу, трэба ўлічваць адзін немалаважны аспект – некаторыя пытанні, якія разглядаюцца ў манаграфіі, дагэтуль маюць палітычнае гучанне, а значыць іх асвятленне зазнае палітычны ўплыў і знешняе ўмяшанне на розных узроўнях акадэмічнага істэблішменту. Пытанні ўтварэння БНР і БССР, палітыкі бальшавікоў і дзейнасці іншых суб'ектаў таго часу дагэтуль не лічацца ў Беларусі чыста навуковымі. Гэта нельга назваць нармальнай сітуацыяй.